# КРЫВІНКА

СТУДЗЕНЬ
№1 (245)
2020 год

ІНФАРМАЦЫЙНА-КУЛЬТУРНАЯ ГАЗЕТА БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА




МЕРКАВАННЕ РЭДАКТАРА

## БЕШАНКОВІЦКАЯ «ЗАРА» ПАТУХАЕ?

**Той, хто апошнім часам хоць калі-нікалі заходзіў на сайт бешанковіцкай раённай газеты «Зара» або разгортваў папяровае выданьне гэтай газеты, пацвердзіць мае словы: як сайт, так і газета, заснавальнікам якой з'яўляецца бешанковіцкі райвыканкам, сталі цалкам рускамоўнымі. Нагадаем, што ў былыя, не такія ўжо і далёкія часы, наша "Зара" была цалкам беларускамоўнай. І яна добра чыталася і мела падпісчыкаў у разы больш, чым мае сёньня.**

Сёньняшняе рускамоўе – ганебны стан для газеты, якая з'яўляецца рупарам раённай улады ў краіне, імя якой Беларусь.

Гэта прамое парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, чые артыкулы адназначна выказваюцца пра роўнасьць дзьвух моваў.

Гэта плявок у душу тых грамадзян раёна, хто дзесяцігодзьдзямі працаваў ці працуе на карысьць раёна, але цяпер не мае аніякой мажлівасьці прачытаць карысную для сябе інфармацыю на зразумелай мове.

Гэта прамая падрыхтоўка да здачы краіны у тыя рукі, чыёй мовай карыстаюцца карэспандэнты гэтага выданьня.

Калі гэта пазіцыя ўлады, то навошта нам такая ўлада, якая парушае нават Асноўны Закон краіны?

Калі ж гэта пазіцыя асобных чыноўнікаў, то хацелася б пачуць іх тлумачэньні: хто і калі дазволіў ім у краіне Беларусь прыцясьняць правы беларускамоўных грамадзянаў?

Я спадзяюся, што гэтыя тлумачэньні некалі будзе слухаць беларускі суд.

**Г.Станкевіч**

ЭКАНОМІКА

## ПАКАЗНІКІ ЗА 11 МЕСЯЦАЎ

**У статыстычным зборніку «Сацыяльна-эканамічны стан Віцебскай вобласці ў студзені - лістападзе 2019 года» ёсць цікавая інфармацыя пра Бешанковіцкі раён. Напрыклад, колькасць занятага насельніцтва ў эканоміцы раёна складае 6497 чалавек.**

Колькасць беспрацоўных у Бешанковіцкім раёне на канец лістапада 2019 года склала ўсяго 24 чалавекі. Гэта менш чым год таму.

Намінальная сярэдні заробак у раёне ў лістападзе склаў 784,7 рубля, пры сярэднім за 2019 год 740,8 рубля. Сярэдні заробак за 11 месяцаў па Віцебскай вобласці склаў 944,2 рубля. Такім чынам, лістападаўскі заробак у раёне склаў 83,1% ад сярэднеабласнога.

Па памеру сярэдняга заробка Бешанковіцкі раён выбіваецца ў серадняків па вобласці. Дзевяць раёнаў маюць заробак ніжэйшы за наш, а адзінаццаць — вышэйшы. Але ж велічыня сярэдняга заробку не паказвае, колькі людзей жыве за рысай беднасці. А іх у нашым раёне вельмі шмат.

**А.Тутэйшы**

*Партал твайго горада: http://beshankovichy.by*

ПРАЦАЎЛАДКАВАННЕ

## НА РЫНКУ ПРАЦЫ ПА-РАНЕЙШАМУ НАПРУЖАНА

**Урад устанавіў спіс тэрыторый з напружаным становішчам на рынку працы на 2020 год. Такая пастанова Савета Міністраў ад 27-га снежня 2019 г. № 921 афіцыйна апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, піша БЕЛТА. У пераліку 29 тэрыторый: 28 раёнаў і горад Бабруйск. У параўнанні з 2019 годам, калі ў спісе было 53 тэрыторыі, іх колькасць істотна зменшылася.**

У Віцебскай вобласці засталося 9 раёнаў з напружанай сітуацыяй на рынку працы. Сярод іх - Бешанковіцкі, Глыбоцкі, Гарадоцкі, Мёрскі, Пастаўскі, Расонскі, Сенненскі, Талачынскі і Шаркаўшчынскі раёны. Летась такіх раёнаў было 15.

У параўнанні з 2019 годам у Віцебскай вобласьці статус тэрыторый, дзе на рынку працы напружана, згубілі: Браслаўскі, Верхнядзьвінскі, Докшыцкі, Дубровенскі, Лепельскі, Лёзненскі і Чашніцкі раёны.

Тое сьведчыць, што тэрыторыя з напружаным становішчам на рынку працы істотна скарацілася. Толькі ці азначае тое скарачэньне, што напружанасьць з пошукамі працы ў гэтых раёнах кудысьці знікла?

**М.Васільеў**

## *ЗОРКА БЕЛАРУСЬ*

*Зьнічкі вогненны сьлед*
*праз імгненьне адно патухае*
*і ў дзяцінства вяртае мяне*
*праз гады зноў і зноў:*
*я за зьнічкай бягу,*
*ейны сьлед ў росных травах шукаю,*
*а яна ўсё хаваецца*
*ў коўдрах густых туманоў.*

*Паўстагодзьдзя сплыло,*
*быццам цёплае лета на ўзмор'і,*
*зорны дождж прылятае*
*у сад мой радзей і радзей.*
*Без ягоных шчадрот*
*на зямлі б пустацьветнай памёр я,*
*каб са зьнічкай сустрэцца сваёй*
*бракавала надзей.*

*…Уздыхае ральля,*
*дзе спадзеваў завораны шэраг,*
*калі пасмачка неба на ўсходзе*
*пачне ружавець.*
*Тут усьмешка жыве*
*у вачах тваіх стомлена-шэрых,*
*тут у кожным кутку*
*Беларусь – мая песьня жыве.*

*Не змагу я памерці,*
*пакуль ты ляціш у Сусьвеце,*
*цераз морак расстрэльных начэй,*
*праз вякі забыцьця.*
*Праз пякельную цемру*
*ты сонцам усьмешлівым сьвеціш,*
*і надзею даеш,*
*і жыццю даеш вечны працяг.*

*Зьнічкі вогненны сьлед*
*праз імгненьне адно патухае.*
*Яна падае дзесь за ракой*
*у высокай траве.*
*Абуджаецца дзень*
*над прасторамі роднага краю.*
*Пакуль зьнічкі ляцяць –*
*Беларусь, мая зорка, жыве!*

***Г.Станкевіч***

КУЛЬТУРА

## ГАЛІНА ХАНЯК — ГОНАР БЕШАНКОВІЦКАГА РАЁНА

**У руках Галіны Ханяк — майстрыцы з раённага дома рамёслаў — нежывое ажывае.**

Гаворыць дырэктарка Дома рамёстваў Алеся Аўчыннікава:

- Яе лялькі - наша візітная картка, створаная ў тэхніцы лапікавай пластыкі і ўнікальным, уласцівым толькі гэтай майстрыцы стылі. На якіх бы выставах ні бывалі, яны заўсёды ў цэнтры ўвагі. Сама Галіна Ханяк распавядае так:

- На кожную ляльку ростам пад 30 сантыметраў сышло каля месяца працы. Мне шанцавала - патрэбныя тканіны і натхненне знаходзіліся нібы самі сабой. Вынікам я задаволеная. Творчасць у маёй сям'і ў генах: мама Вольга Васільеўна віртуозна вязала кручком, бабуля Агаф'я Трыфанаўна выдатна ткала, вышывала. Мая дачка Аня, ёй 23, таксама не беларучка, пераняла ад мяне тонкасці майстэрства.

Галіне Ханяк даюцца не толькі лялечныя кампазіцыі. Па кнігах, музейным матэрыялах і ўласнай ініцыятыве майстрыха адрадзіла ў Бешанковічах ткацтва паясоў. Яе заслуга - больш за сто аднолькавых з нуля ў розных тэхніках традыцыйных паясоў. Да Галіны Мікалаеўны іх у раёне папросту не было. Самы першы сатканы пояс сёння захоўваюць у краязнаўчым музеі.

- Ведалі б вы, з якой цяжкасцю ён мне даўся! - успамінае майстрыца. - У аснову ляглі бешанковіцкія ўзоры, якія ўплятаюцца нітка за ніткай, удумліва і акуратна. Асвойваць новае заўсёды цікава. Цяпер захапілася валяннем - спрабую рабіць арыгінальныя сувеніры. Напрыклад, міні-валёнкі з сабачай поўсці, якой забяспечвае Алеся Аўчыннікава і яе калматая улюбёнка Альфа пароды бобтэйл.

Лапікавае шыццё, або, як модна казаць, пэчворк, Галіна асвоіла шмат гадоў таму. Калейдаскоп тканін і фантазія падштурхоўваюць на нешта непаўторнае: сінюю птушку шчасця, велічны храм або пано з Віфлеемскай зоркай. Адкрыўшы для сябе прыгажосць хрысціянства, яна перанесла гэта ў творчасць:

- Першую працу па хрысціянскіх матывах рабіла да выставы ў Віцебску. Вельмі спяшалася і паспела якраз да Каляд. Думаю, не ўсе супадзенні выпадковыя. Калісьці я везла ў сталіцу калекцыю коўдраў, каб паказаць, а ў выніку пакінула іх у Мінску.

А аднойчы, калі для нашай сям'і надышлі няпростыя часы і я з дачкой папрасіла прытулку ў Свята-Елісавецінскім манастыры, ігумення, даведаўшыся аб маім захапленні пэчворкам, вырашыла паказаць мне коўдру, сабраную з сотняў шматкоў. Маю ж коўдру ... Чым не знак, што абраны шлях верны?

**СБ**

БЕЛАРУСКАЕ СЛОВА

# ВОЛЬГА ІПАТАВА РАСПАВЯДАЕ

**75 гадоў таму, 1 студзеня 1945 года, нарадзілася вядомая беларуская пісьменніца Вольга Іпатава. У 2004 годзе ў яе выйшаў зборнік вершаў, які аўтарка назвала «Задарожжа». Гэта назва вёскі ў Бешанковіцкім раёне, якая звязаная з лёсам Іпатавай. Некалькі дзіцячых гадоў Вольга правяла ў бабулі ў вёсцы Забелле Бешанковіцкага раёна. Сама пісьменніца распавядае пра тое на старонках аднаго беларускага выдання.**

"Некалькі дзіцячых гадоў я правяла ў бабулі ў вёсцы Забелле Бешанковіцкага раёна. Гэта поўнач Беларусі, і ў час майго дзяцінства—далёкая ад нават раённага цэнтра селішча. І там шмат захавалася з язычаскага ці ведычнага мінулага нашага народу. У суседняй з маёй бабулі лясной вёсцы жыў незвычайны чалавек. Ён хадзіў, абхутаны змеямі, любіў, карміў іх, і гаварыў з імі. Я бачыла яго ў дзяцінстве. Ці не быў ён з тых ужо апошніх людзей, у чыіх жылах цякла кроў старажытных гіпербарэйцаў? Ці не цячэ яна ў жылах тых, хто і сёння здзіўляе нас так званымі паранармальнымі здольнасцямі, якімі ў часы Гіпербарэі валодаў кожны?

Мне пашанцавала: бабуля мая спалучала якасці зацятай хрысціянкі і не менш зацятага язычніцтва. На Вялікдзень мы ішлі за пяць кіламетраў у царкву, а на Дзяды садзіліся за памінальны стол і, адчыняючы дзверы, бабуля заклікала продкаў сесці з намі…

Пачынаючы жніво, першую жменю аддавала Багародзіцы і Жыценю, а абсаджваючы сядзібу бярозавымі галінкамі на Тройцу, узгадвала заадно і Ярылу… Гаварыла – аржаны, арак, арабіна, Арына…

Слова «арый» яна ніколі не чула, і каб хто сказаў ёй, што калісьці, шмат тысячагоддзяў таму, у далёкіх паўночных шыротах каля полюса гэтыя арыі сонца называлі «РА», ад чаго ў многіх славянскіх мовах» – у назвах рэчак, азёраў, мясцовасцях засталіся водгукі — яна толькі б паківала галавой, як на дзівацтвы.

Само слова «арыйцы», «арыі» моцна скампраметаваў Гітлер, – але ад гэтага яны не перасталі згадвацца ў навуцы як цывілізацыя, якая, як і этрускі, была амаль казачна-нерэальнай. І ўсё ж яна была! Яе шукалі не толькі немцы – яшчэ ў 20-я гады бальшавіцкай уладай на Кольскі паўвостраў была пасланая экспедыцыя Барчанкі, якая-такі прывезла нешта – і можа таму ўся да апошняга чалавека была пасля расстраляная.

Многія сур'ёзныя вучоныя гавораць, што гіпербарэйцы валодалі незвычайнымі якасцямі – яны ўмелі лятаць, гаілі хваробы, гаварылі з жывёламі – тое, што засталося ў нашай свядомасці толькі як казкі. У Індыі многае з гэтых цудаў захавалася – я выкажу крамольную думку, што менавіта дзяленне на касты, якое так крытыкуецца, дазволіла браміням (дарэчы, на санскрыце «арый» значыць высакародны) праз тысячагоддзі захаваць гэтыя даўнейшыя здольнасці (лятаючыя камні ў вёсцы Шывапур, бібліятэкі на пальмавых лістах, дзе пры дакранні да чыстага пальмавага ліста пальца або далоні чалавека з'яўляліся звесткі пра яго нараджэнне і будучую смерць), і шмат што іншае…

А на нашых землях знішчалі валхвоў ва ўсе часы, у тым ліку займалася гэтым і КДБ. Рускі пісьменнік Валодзя Кочатаў у маскоўскай аспірантуры расказваў мне, як ягоную маці, што лячыла вадой і на цукры –як цяпер высвятляецца, крышталічнай структуры, якая мае сваю «памяць»–, пашкадавалі ў гэтай установе, толькі забаранілі дапамагаць іншым."

*(скарочана)*

**"Беларуская праўда"**

ГІСТОРЫЯ

# З САКРЭТНАГА АРХІВУ

**Гісторык Ірына Раманава пачала працаваць з гэтымі матэрыяламі 20 гадоў таму. Яна правяла ў архіве сотні гадзін, прачытала дзясяткі тысяч дакумэнтаў. Ейны зборнік «Улада і грамадзтва. БССР у 1929–1939 гадах» разьмялі з кнігарняў імгненна.**

**«Беларусы не зьмірыліся з калгасамі: падпальвалі маёмасьць, забівалі актывістаў»**

«Адказ сялянства на калектывізацыю быў радыкальны — пачалася жорсткая барацьба супраць бальшавіцкіх пераўтварэньняў на вёсцы. Эпіцэнтрам падзей на Беларусі сталі калектывізаваныя амаль на 90% раёны, найперш раёны Палесься. Сяляне падпальвалі маёмасьць, забівалі актывістаў. Толькі за тры з паловай першыя месяцы 1930 году ў Беларусі адбылося больш за 500 сялянскіх выступленьняў. Улады дзеля здушэньня бунтаў выкарыстоўвалі ўзброеных салдат».

Складовай часткай гэтай барацьбы з калектывізацыяй сталі так званыя бабскія бунты.

Сцэнар быў даволі просты: зьбіраўся натоўп жанчын, якія эмацыйна патрабавалі распусьціць калгас, вярнуць ім іхную маёмасьць, раней абагуленую ў калгасе, а таксама адкрыць царкву і вызваліць «кулакоў». Натуральна, улады не зьбіраліся задавальняць іх патрабаваньні. Тады жанчыны пераходзілі да актыўных дзеяньняў: зьбівалі замкі са складоў і хлявоў, разьбіралі сельскагаспадарчы інвэнтар, жывёлу, насеньне і г. д. Спробы ўладаў супрацьдзейнічаць гэтаму вялі да эскаляцыі канфлікту, перарасталі ў бойкі, у якіх часам здараліся ахвяры.

Сялянства не зьмірылася з калгасамі. Органамі НКВД у БССР з 1 студзеня 1933 г. па 10 верасьня 1934 г. было зарэгістравана 1163 тэрарыстычныя акты ў вёсцы. Сярод іх 117 забойстваў актывістаў і 861 падпал калгасных двароў.

А ў 1937 годзе ўлады зноў шукалі «дадатковыя аргумэнты» для таго, каб загнаць у калгасы больш за 100 тыс. аднаасобных гаспадарак.

**«За крадзеж жорстка каралі, а сяляне кралі і кралі»**

Узяць нешта ў калгасе ніколі не лічылася крадзяжом. Тым больш у часы голаду.

«Кралі ўласнае зерне, каб ня даць дзяржаве адняць яго шляхам хлебанарыхтовак, уласную жывёлу з калгасных хлявоў. Дзяржава на гэта адказала законам ад 7 жніўня 1932 г., згодна зь якім за крадзеж калгаснай і каапэратыўнай маёмасьці прадугледжвалася найвышэйшая мера пакараньня — расстрэл, які пры зьмякчальных абставінах мог быць заменены на 10 гадоў пазбаўленьня волі».

Вайна бальшавікоў супраць сялянства прывяла да масавага голаду ў СССР. У Беларусі найбольшых памераў ён дасягнуў на Палесьсі. Зьвесткі пра голад на Беларусі зь месяцаў у «цэнтар» пачалі паступаць зь лета 1932 году. Зь лета 1933 году яны сталі масавымі.

Ва Ўзьдзенскім раёне па 8 калгасах налічвалася 1290 чалавек, якім патрабавалася дапамога хлебам.

Ва Ўшацкім раёне: «многія калгасьнікі ўжо цяпер ня маюць хлеба і харчуюцца рознымі сурагатамі».

У цяжкім становішчы, адпаведна дакладной з Жыткавіцкага раёну, былі 33 калгасы раёну, альбо каля 4,5 тыс. чалавек.

Па 68 калгасах зоны Клімавіцкай МТС з 4200 сем'яў 3000 ня мелі ўвогуле ніякіх прадуктаў.

Рабочыя пісалі ў ЦВК:

«Мы рабочие работающие хотели бы так жить, как в Америке безработные и мы больше ничего не хотели бы... в газетах наших пишут, что за границей безработные в мусорных ямах гнилые яйца собирают и кушают и что стоят в очередях за чашкою супа. Попробуйте у нас найти в мусорных ямах гнилое яйцо, уверяем, что не найдете, ибо у нас работающий сам его скушает...».

Зь ліста, які быў кваліфікаваны як антысавецкі, у рэдакцыю сеньненскай райгазэты «Камунар»:

«Сами ходим голые поели усю траву, липовый лист, брагу з Оболи и Янова а з нас требуют молока мясо [...] ни знаю как передать как вы издеваетесь над нами писать есь чево да некому чытать это подумать изгалить Украину теперь принялись за Белоруссию и послед смерть СТАЛИНУ долой социализм».

«Адзіная лічба, якую пакуль удалося знайсьці адносна колькасьці памерлых ад голаду на Беларусі, — гэта тысяча чалавек у Нараўлянскім раёне. Але ж галадалі ня толькі ў Нараўлянскім раёне», — кажа Ірына.

*(скарочана)*

**Дзмітрый Гурневіч**
**Радыё Свабода**

КРЫМІНАЛ

# БРАТ БРАТУ ЗЛАМАЎ НОС

**У лістападзе 2019 года да крымінальнай адказнасці за наўмыснае прычыненне лёгкага цялеснага пашкоджання прыцягнуты 29-гадовы жыхар Бешанковіцкага раёна. У ходзе сумеснага распівання спіртных напояў ён ударыў брата кулаком у твар.**

Выязное судовае пасяджэнне адбылося ў Бешанковіцкім раённым аддзеле ўнутраных спраў з запрашэннем грамадзян, якія схільныя да гвалту ў побыце.

Абвінавачаны віну прызнаў, паказаў, што ўдарыў брата з-за сваркі, якая ўзнікла паміж імі. А вось прычыну сваркі ён назваць не змог, паколькі не памятаў з-за моцнага стану алкагольнага ап'янення.

У тым, што ён нарабіў, абвінавачаны раскаяўся. Раней ён неаднаразова прыцягваўся да адміністра-цыйнай адказнасці і мае патрэбу ў лячэнні ад алкагольнай залежнасці.

Суд пагадзіўся з мерка-ваннем дзяржаўнага абвіна-ваўцы і прызнаў зламысніка вінаватым у вышэй згаданым злачынстве. Яму прызначана пакаранне ў выглядзе грамадскіх работ. Прысуд уступіў у законную сілу.

**А. Тутэйшы,**
**па матэрыялах сайта бешанковіцкай пракуратуры**

КРЫМІНАЛ

# ШТОСЬЦІ Ў НАС НЯ ТАК…

**У бажніцы на праваслаўнае Раство Лукашэнка заявіў, што «будзе вельмі няпросты год. І нам трэба шмат зрабіць для таго, каб гэтак жа годна прайсці яго, захаваўшы нашу краіну, сваю незалежнасць».**

Хто замахваецца на краіну, ён не патлумачыў, але тут і тлумачыць няма чаго. Ужо і сам Лукашэнка даўно не палохае народ, як у ранейшыя часы, «жахлівым монстрам NATO»: ну смешна, ну не коціць. Украіна? Тая сама баіцца, як бы з тэрыторыі Беларусі не ўдарыла яе ваенная саюзніца Расея.

А вось вам і адказ: па іроніі лёсу менавіта гэтая саюзніца і стала цяпер галаўным болем Менску. Менавіта з усходу прыляцеў чорны лебедзь, якога завуць «паглыбленнем інтэграцыі».

**Страшней за ўсіх монстраў «найбліжэйшы саюзнік»**

Паказальны штрых: калі прыбалты, палякі на ўсе лады зазываюць да сябе натаўскую падмогу, то беларускае кіраўніцтва рукамі і нагамі адбіваецца ад расейскай ваеннай базы. Таму што засвоіў крымскі ўрок: там менавіта база Чарнаморскага флоту Расеі стала плацдармам анексіі.

Больш за тое, у снежаньскім інтэрв'ю радыёстанцыі «Эхо Москвы» Лукашэнка заявіў адкрытым тэкстам: калі Расея паспрабуе парушыць суверэнітэт Беларусі, то «гэтага ўжо краіны NATO не перанясуць, таму што яны палічаць гэта за пагрозу ім».

Карацей, усё змяшалася ў доме Аблонскіх. Беларускі прапаганд папярэджвае «бліжэйшага саюзніка»: лепш не лезь – і пры гэтым спадзяецца на дапамогу «жахлівага монстра», заходніх супастатаў, якіх дэманізаваў у пару ранейшага ідэалагічнага супрацьстаяння.

**«Жыць захочаш – не так раскірачышся»**

Так, некалі па частцы антызаходняй рыторыкі Лукашэнка даваў фору маскоўскім каршакам. Але добра было ругаць праклятых імперыялістаў, пакуль адчуваў сябе як у Хрыста за пазухай пад ядравым парасонам Расеі і з яе шчодрымі субсідыямі.

А цяпер Масква перастала даваць танныя нафту ды газ, крэдыты, затое ўзяла за горла патрабаваннем «паглыбіць інтэграцыю», у тым ліку ўвесці адзіную валюту і стварыць наднацыянальныя органы. Гэта пахне ціхім паглынаннем. І беларуская дыпламатыя яшчэ мацней стала налягаць на шматвектарнасць.

І вось ужо ў Менску прагна чакаюць дзяржсакратара ЗША Майка Пампэёў і нават асцярожна падтрымліваюць ЗША ў канфлікце з Іранам (хоць перш на глебе антыамерыканізму спрабавалі зблізіцца як раз з рэжымам аятолаў).

Не, беларускі правадыр ня перакаваўся у заўзятага дэмакрата і перакананага заходніка. Але суровыя рэаліі прымушаюць рабіць геапалітычны шпагат. Як у культавай кінакамедыі: «Жыць захочаш – не так раскірачышся».

**Патрыятызм без разнарадкі не заахвочваецца**

Больш за тое, у снежні па вуліцах Менску некалькі разоў бесперашкодна прайшліся ўдзельнікі акцый пратэсту супраць інтэграцыі з Расеяй. Іх не разганялі, пры тым што акцыі былі несанкцыянаванымі, а беларускія ўлады традыцыйна душаць вулічную актыўнасць.

Спачатку гэтая вольніца здзіўляла. Аглядальнікі загаварылі: гэтыя выступы выгадныя беларускаму кіраўніку, гэта козыр на перамовах з Уладзімірам Пуціным.

Але потым усё стала на свае месцы: завадатарам і проста тым, хто трапіўся пад руку, сталі ляпіць адміністрацыйныя арышты і штрафы. Гэта судовы канвеер працягнецца і пасля праваслаўнага Раства...

Іх «віна» у тым, што выйшлі на плошчу за незалежнасць. Тую самую, за якую пагэтычна выступае і афіцыйны лідар. Але фішка ў тым, што выйшлі не спытаць. А гэтага наверсе страшна не любяць. Святар ты, паэт, ці хто, але павінен сядзець як мыш пад венікам. Такі беларускі парадак…

*(скарочана)*

**Аляксандр Класкоўскі**
**Белсат**

ПАЛІТАЛОГІЯ

# КАРОТКІЯ ВЫНІКІ ПЕРШАГА ГОДА ЭЛЕКТАРАЛЬНАЙ ВАКХАНАЛІІ

**Апошні «Азбука паліталогіі» ў 2019-м. Зразумець унёсак гэтага года ў наша жыццё, не адышоўшы на пэўную дыстанцыю, няпроста. Тое, што сёння здаецца лёсавызначальным, праз пэўны час можна і не прыгадаць.**




Да тых навінаў, у якіх няшмат шанцаў прэтэндаваць на статус значных падзей, можна смела аднесці кадравыя перастаноўкі на вяршыні кіраўнічай вертыкалі.

У 2019 годзе кадравыя рашэнні адзіным палітыкам (АП) прымаліся неаднаразова. Самае прыкметнае — прызначэнне былога першага намесніка старшыні беларускага КДБ генерал-маёра Ігара Сяргеенкі кіраўніком адміністрацыі АП…

**Не будзьце такімі наіўнымі**

12 верасня падчас чарговага разгляду кадравых (!) пытанняў прагучала слова «вакханалія». Цытую: *«У палітыцы, я ўжо сказаў, мы пачалі здаваць экзамен. Сённяшняя перадвыбарчая вакханалія, інакш яе не назавеш, перад парламенцкімі выбарамі кажа пра тое, што гэта проста рэпетыцыя прэзідэнцкіх выбараў».*

Уменне падбіраць дакладнае слова для апісання палітычнай рэальнасці — адна з адметных асаблівасцяў АП. Дазволю сабе яшчэ адну цытату: «У краіне кіраванай, у нашай краіне, для сябе мы павінны правесці гэтыя выбары».

Лепш, мабыць, і не скажаш. І больш адпаведнай аўдыторыі, чым прэтэндэнты на хлебныя месцы ва ўладнай вертыкалі, для гэтага не абраць. Хто такія мы, і для каго яны праводзяць выбары? Мы — гэта прадстаўнікі ўлады. Выбары яны праводзяць для сябе. А вы думалі, для грамадства? Для карэкціроўкі курсу развіцця краіны? Не будзьце такімі наіўнымі.

Зразумела, што такога роду выбары правесці паводле Канстытуцыі немагчыма, толькі ў рэжыме «вакханаліі», і толькі ў кіраванай краіне, што і было чарговым разам паспяхова прадэманстравана.

Але наколькі б жорстка ні кантралявалася краіна, пэўныя асцярогі для арганізатараў электаральных «вакханалій» заўсёды існуюць. Нездарма ж у паліталогіі ёсць паняцце «выбары, якія перакульваюць», пад якімі разумеецца дэмакратызацыя аўтарытарнага рэжыму з дапамогай часткова свабодных выбараў, што не выключаюць перамогу апазіцыі.

Беларускаму аўтарытарнаму рэжыму такога кшталту выбары бліжэйшым часам не пагражаюць. Рэжым больш чым кансалідаваны, і ўнутраная «вакханалія» ён можа не баяцца пры ўмове пераносу яе («вакханаліі») вонкі. Порах у парахаўніцах для гэтага ў рэжыму маецца.

**Трэба ўпірацца**

2019 год заканчваецца ўпэўненым ростам даходаў насельніцтва і заработнай платы (за студзень-кастрычнік — 7,3% і 7,6% адпаведна) на фоне вельмі сціплага росту ВУП (1,1%). Гэтыя «нажніцы» наглядна ілюструюць важную асаблівасць беларускай мадэлі — дамінаванне палітычных мэтаў над эканамічнымі.

Шматлікія публічныя выказванні АП з нагоды вяршэнства эканомікі не павінны ўводзіць у зман. Абмяжуюся адной цытатай: *«Будзе эканоміка — будзе ўсё: і бяспека, і кібербяспека, і ў СМІ будзе бяспека. Калі не будзе эканомікі, ніякая інфармацыйная бяспека, канцэпцыі, законы, драконаўскія метады, палачная дысцыпліна не дапамогуць. У якім выпадку не будзе ў нас эканомікі, мы таксама ведаем. І гэта, на жаль, таксама завязана на дысцыпліну і выканаўчасць».*

Хто ясна думае, той ясна выкладае. Справядліва і адваротнае. Рэкамендую перачытаць цытату, прычым пажадана двойчы. Калі не будзе эканомікі, то дысцыпліна, нават у яе крайнім (палачным) варыянце, дапамагчы не ў стане. Гэта з аднаго боку. Аднак не варта спяшацца з канчатковай высновай, у эканамічнага медалю ёсць і іншы бок, бо існаванне эканомікі наўпрост «завязанае на дысцыпліну і выканаўчасць».

Вось такі дамарослы біном Ньютана, разабрацца ў якім аўтар «Азбукі паліталогіі» не здольны.

Палачная дысцыпліна неаднаразова дэманстравала сваю эфектыўнасць у гісторыі, напрыклад, пры будаўніцтве пірамідаў, а ў мінулым стагоддзі — на лесапавале. Але драўніну ў прамысловых маштабах з дапамогай дзедаўскіх пілаў і сякераў сёння не нарыхтоўваюць, што ж тады казаць пра падрыхтоўку высокакласных спецыялістаў, у прыватнасці, медыкаў.

13 снежня на сустрэчы са студэнтамі медыцынскіх ВНУ АП *«канстатаваў адсутнасць сур'ёзнай праблемы з адтокам урачэбных кадраў з краіны»*. Характэрна, што ў афіцыйным прэс-рэлізе адсутнасць праблемы была праілюстраваная негатыўнай дынамікай за два апошнія гады. Маркуйце самі: *«Паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя, з пачатку гэтага года з Беларусі з'ехалі для працы за мяжой каля 200 лекараў, прыехалі назад — 20 чалавек. У 2018 годзе іх было 158 і 40 адпаведна»*. Гэта значыць, за няпоўны год колькасць лекараў, якія эмігравалі, павялічылася на 27%, а колькасць тых, якія вярнуліся, скарацілася ўдвая!..

***(працяг на стар. 4)***

УЛАДА

# …ПОД РАЗДАЧУ ПОПАЛИ ПАТРИОТЫ БЕЛАРУСИ

**Выступление официального лидера дало картбланш на репрессии против несогласных с «углубленной интеграцией» и оппозиции вообще... В последние дни в Беларуси работает какой-то бешеный конвейер судов над участниками декабрьских массовых акций. Десятки людей, выходивших на митинги за независимость своей страны, получают штрафы и административные аресты.**

Согласно букве закона, этих людей наказывают за то, что массово вышли на улицу без разрешения властей. Но по сути мы видим одиозное, абсурдное явление: государство карает убежденных патриотов, готовых отстаивать суверенитет без отмашки сверху. Такова аморальная логика авторитарного режима: давить всё, что шевелится, потому что оно может покачнуть трон.

**Всё покатилось по привычным рельсам**

А ведь поначалу могло даже показаться, что не только декабрь теплый, но и политическая оттепель началась. Акции 7 и 8 декабря в Минске, вызванные опасением, что Александр Лукашенко и Владимир Путин могут подписать опасную для суверенитета программу «углубления интеграции», прошли без разгонов и задержаний.

Причем оба раза колонна под крамольными бело-красно-белыми флагами несколько часов свободно разгуливала по городу, 8 декабря дошла даже до посольства России, чтобы вручить петицию. Без брутальности со стороны силовиков прошли также уличные выступления в столице 20, 21 и 29 декабря, акции в других городах.

Поразительную галантность милиции ряд обозревателей объяснил тем, что белорусскому лидеру, который встречался с российским коллегой в Сочи 7 декабря, а затем в Петербурге 20 декабря, эти протесты оказались по-своему выгодны. Мол, Лукашенко и сам упирается, не желая идти на кремлевский вариант «углубленной интеграции», а тут — вон какой наглядный аргумент: мой народ уже на дыбы становится, так что не выкручивайте руки!...

**Конвейер работает исправно**

Милиция и суды и так уже поставили на конвейер наказание участников декабрьских выступлений. Ну а после публичной отмашки с самого верха как не проявить особое рвение!

Между тем к концу декабря протесты и без того стали выдыхаться. Во-первых, само «углубление интеграции» капитально подвисло. Во-вторых, организаторы допустили ошибки, частили с акциями и не слишком привязывали их к резонансным событиям. В-третьих, уже в декабре начались суды, и в частности был изолирован харизматичный лидер протестов Павел Северинец, что обезглавило эту уличную кампанию и отпугнуло часть потенциальных участников.

В такой ситуации властям вроде как можно было бы и не усердствовать далее со штрафами и сутками. Зачем раздражать Запад, с которым ныне потепление? Тем более что новых акций оппозиция пока не намечает. Нет взрывных поводов. Неясно, когда подпишет и подпишет ли вообще эти чертовы дорожные карты Лукашенко. С Россией пошла нефтегазовая заруба, белорусский президент уже сам признается, что с Путиным не договорился.

Но тем не менее, силовикам послан недвусмысленный месседж — «прекратить всякие шатания». Так что сейчас милиция, вопреки стараниям нового министра Юрия Караева гуманизировать имидж ведомства, может вернуться к прежним практикам (вспомним разгон Дня Воли в 2017-м). В общем, шансы Северинца или кого-то еще эффектно водить по столице колонны под бело-красно-белыми флагами резко уменьшаются.

К слову, 10 января Северинцу, только что вышедшему после 15-суточной отсидки за акцию 7 декабря, влепили еще 30 суток ареста — за участие в акциях 20 и 21 декабря. Вдобавок политик должен выплатить 1350 рублей штрафа за призыв к участию в несанкционированной акции против интеграции с Россией 20 декабря.

В числе прочих сегодня оштрафован на 540 рублей писатель Владимир Орлов, прочитавший на одном из митингов свое знаменитое эссе о независимости. Наказание национальной элиты, представителей продвинутой, наиболее сознательной части общества за публичное проявление патриотических чувств выглядит театром абсурда.

**Режим страшится политизации масс**

Но у этого абсурда есть своя логика. Это авторитарная логика, выстроенная вокруг задачи удержания власти. Мы не знаем, использовал ли Лукашенко протесты против интеграции как козырь в закулисной игре с Путиным. Но давно известно, что белорусского руководителя злят и нервируют любые уличные выступления, если это не пляски БРСМ в вышиванках.

Стало общим местом говорить об аполитичности белорусов. Однако это во многом потому, что они 25 лет под прессом. Причем не сразу смирились: в 1990-х уличные марши иной раз превращались в настоящие битвы.

И в принципе белорусы могут быстро политизироваться. Вспомним: несколько месяцев относительной вольницы перед выборами 2010 года настолько раскрепостили публику, что в итоге получилась многолюдная (до 20-30 тысяч участников) Площадь, разгон которой обернулся для Лукашенко жестокой ссорой с Западом и санкциями против режима. «Дармоедские» протесты 2017 года тоже быстро обогатились политической повесткой в духе «уходи!» (адресат был всем понятен).

Прошлогодние декабрьские протесты также имели двойную направленность — как против интеграции с Россией, так и против политики белорусских властей, которая, по мнению участников, и поставила под угрозу суверенитет…

**Александр Класковский**
**naviny.by**

ПАЛІТАЛОГІЯ

*(пачатак на стар. №3)*

**Незалежнасць каштуе дорага**

Але, мабыць, на ролю галоўнай падзеі года могуць смела прэтэндаваць чарговыя разборкі ўнутры так званай Саюзнай дзяржавы. Адрозненне разборак узору 2019 года ад папярэдніх палягае ў тым, што іх удзельнікі за год не прасунуліся ні на крок.

Старт бясплодным перамовам, што беспрэцэдэнтна зацягнуліся, быў дадзены на пасяджэнні Савета Міністраў Саюзнай дзяржавы 13 снежня ў Брэсце, на якіх старшыня ўрада РФ Дзмітрый Мядзведзеў абвясціў два сцэнары развіцця сумеснага інтэграцыйнага тварэння. Адзін — кансерватыўны, без павышэння існуючага ўзроўню інтэграцыі дзвюх краін. Другі — той, які прадугледжвае шчыльную інтэграцыю.

*«Хачу асабліва падкрэсліць: Расія гатовая і далей прасоўвацца па шляху будаўніцтва Саюзнай дзяржавы, уключаючы стварэнне адзінага эмісійнага цэнтра, адзінай мытнай службы, суда, Палікоўвай палаты»*, — заявіў Мядзведзеў. Праз год падчас сваёй штогадовай прэс-канферэнцыі прэзідэнт РФ Уладзімір Пуцін практычна даслоўна пацвердзіў прыярытэт кансерватыўнага варыянту.

Незалежныя беларускія аналітыкі першы варыянт ацанілі як *«шантаж не толькі Лукашэнкі, але і ўсяго беларускага народа»* (Яраслаў Раманчук) і *«ўльтыматум»* (Валерый Карбалевіч).

Здавалася б, з такімі рашучымі ацэнкамі складана спрачацца. Аднак яны перакладаюць праблему з хворай галавы не тое, каб на здаровую, а на галаву, якая не з'яўляецца ініцыятарам праблемы.

Марыць не шкодна, шкодна не марыць. Аднак калі кіраўніцтва Беларусі хоча атрымліваць кампенсацыю за падатковы манеўр (8–12 мільярдаў долараў да 2020 года) і газ па цэнах Смаленскай вобласці, і пры гэтым заставацца незалежным ад Крамля, то гэта будзе перабор, з якіх бы пазіцый мы яго ні разглядалі.

Незалежнасць, як неаднаразова нагадваў АП, каштуе дорага. Таму барацьбу за незалежнасць неабходна пачынаць з усведамлення грамадствам гэтай азбукавай ісціны і з гатоўнасці бліжэйшым часам зацягнуць паясы.

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы Час"**

УКРАІНА

# ЖЫВЫ, РУХОМЫ, СВАБОДНА РАЗМАЎЛЯЕ НА ДЗЯРЖАЎНАЙ МОВЕ...

**Пераход на новы часавы пояс меў для краіны пэўны сэнс: мы ўсе не глядзелі навагодні зварот Уладзіміра Пуціна. Ну, не зусім усе, зразумела: некаторыя заўзятыя прыхільнікі крамлёўскага летуценніка і палітычныя мазахісты маглі ўключыць адзін з расейскіх інтэрнэт-каналаў і паслухаць, што ён там кажа.**

Аналагічны кантэнт Аляксандра Лукашэнкі можна было не слухаць: за мінулыя гады ўсе ведаюць пра што, што і каму ён скажа. Нечаканасць у дадзеным выпадку выключаная. Сапраўды, ён жа не Ельцын які-небудзь. І не пацан. Таму гук у многіх маіх знаёмых быў у тэлевізары выключаны...

А раніцай можна было ўключыць кампутар і паглядзець першы навагодні зварот прэзідэнта Украіны Уладзіміра Зяленскага.

Так, сябры мае, на постсавецкай прасторы з'явіўся новы заканадавец мод. Замест стомленых старых дзядзькоў, сівых, з мяшком пад вачыма, з'явіўся малады сучасны чалавек, у «водолазцы», на якім добра сядзіць гарнітур, што не нагадвае пра звычку насіць бронекамізэльку, і які казаў свабодна і ўпэўнена.

Прэзідэнт Украіны прадставіў сябе Валодзем Зяленскім, які прыехаў дадому пасля карпаратыву і катэгарычна не жадае чуць нічога, акрамя навагодняга віншавання. Гэта значыць, віншаванні і пажаданні — так, а вось справаздачы аб праведзенай працы і ўсю іншую лухту — дакладна не. Так што зварот прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага да народа быў адначасова і зваротам да самога сябе, да сярэднестатыстычнага украінца, які хоча аднаго — міру, асабістага шчасця і, нарэшце, эканамічнай стабільнасці.

Ён не апраўдваўся з нагоды няўдач. Ён радаваўся удачам і заклікаў сваіх суграмадзян, якія працуюць і ваююць, ды галасуе «за» ці «супраць» яго і яго партыі, радавацца таму ж.

І яшчэ. Зяленскі заклікаў да адзінства. Ён казаў пра адрозненні, якія здаюцца прынцыповымі, — сацыяльныя, этнічныя, культурныя, рэгіянальныя — але якія зусім не адмяняюць таго, што з'яўляецца агульным, а часам і агульначалавечым.

Гэта і было галоўным пасланнем: пра што б не казаў Зяленскі — пра надзею на вяртанне «дамоў» Данбаса і Крыма, вяртанне з палону маракоў і ўкраінскіх патрыётаў, якія змагаліся за цэласнасць краіны.

І імёны стаўпоў украінскай культуры прыйшліся дарэчы — таму што менавіта культура павінна выканаць вядучую аб'яднаўчую ролю. І той факт, што асабіста прэзідэнт займаў на экране менш за палову адведзенага на віншаванне часу, таксама падкрэслівала: у навагоднюю ноч забудзем пра палітыку. Будзем памятаць пра Украіну і ўкраінцаў.

Можа быць таму, што палітыка пацяснілася ў гэты момант, хацелася верыць Зяленскаму.

Хай у яго атрымаецца. Хай у Украіны атрымаецца. Хай украінцы будуць шчаслівыя, і свет прыйдзе ў іх дамы. Усе дамы. Незалежна ад адрозненняў.

*(скарочана)*

**Аляксандр Фядута**
**belsat.eu**

ПАЛІТВЯЗЕНЬ

# ЛІСТЫ З ВОЛІ ЦЯПЕР – НА ВАГУ ЗОЛАТА

**У апошнім па часе лісце да віцебскіх праваабаронцаў палітвязень Міхаіл Жамчужны выказвае меркаванне, што грамадства губляе цікавасць да яго, паведамляецца на сайце "Віцебскай Вясны". Моцная плынь карэспандэнцыі, якую атрымліваў годам раней,ператварылася ў рэдкія лісты. Жамчужны звязвае гэта з электаральнай кампаніяй, якая праходзіла ў Беларусі.**

*«Гэтыя выбары ўсіх маіх адрасантаў выбілі з сядла. Шчыра спачуваю ім. Разумею, як цяжка вытрымаць трохмесячны выбарчы марафон – як у якасці кандыдатаў, так і назіральнікаў на выбарчых участках»*, – выказвае сваё разуменне сытуацыі ў краіне Міхаіл Жамчужны.

*«Так, сапраўды, палітвязень Жамчужны неаднаразова паведамляў мне ў лістах пра тое, што інтэнсіўнасць ліставання з грамадзянскімі актывістамі зазнала паменшылася. Цяпер лісты з волі, са словаў Міхаіла, сталі «на вагу золата». Цяпер яны прыходзяць радзей, кола падтрымкі і ўвагі грамадзкасці да зняволенага звузілася»*, – мяркуе праваабаронца з Віцебску Леанід Свецік.

Апошнім часам у Жамчужнага з'явіліся праблемы з падачай скаргаў у суды. Фактычна адміністрацыя калоніі пазбавіла палітвязня канстытуцыйнага права на абарону.

*«Цяпер блакуюць маю перапіску з судамі, патрабуючы даклейваць марку за 5 капеек. Заявы вяртаюць, тэрміны абскарджання канчаюцца, і рашэнні набываюць законную моц. А гэтую марку мне ўзяць няма дзе! Сытуацыя бязвыхадная…»* – паведамляе ў лісце палітвязень.

Жамчужны лічыць, што такія абмежаванні звязаныя з тым, што ён выпрацаваў правільную стратэгію абароны ў судах.

Палітвязень высока ацэньвае працу ўсіх праваабаронцаў, бо ад 2014 году аніводны грамадзянскі альбо палітычны актывіст не быў асуджаны на зняволенне.

*«Я, знаходзячыся ў месцах пазбаўлення воліісупрацоўнічаючызправаабаронцамі ад жніўня 2014 году, перaследаваў адзіную мэту – каб палітвязняў у Беларусі больш не было»*, – піша Міхаіл Жамчужны.

У апошнія дні снежня, перад чарговай пасадкай у ШІЗА, Міхаіл Жамчужны паспяшаўся павіншаваць усіх прадстаўнікоў грамадзянскай супольнасці Беларусі з цудоўнымі зімовымі святамі: «Жадаю ўсім здароўя! Жыве Беларусь!»

**"Віцебская вясна"**
**vitebskspring.org**

***<u>Ад рэдакцыі:</u> лісты пішыце сюды 213410, ПК-9, бр.31, ПКТ, вул. Дабралюбава, 16, г. Горкі, Магілёўская вобласць, Беларусь Жамчужнаму Міхаілу Ігаравічу***

БЕЛАРУСЬ – ЗША

# БЕЛАРУСЬ АСЬЦЯРОЖНА ПАДТРЫМАЛА ЗША

**Напружанасьць паміж ЗША і Іранам пасьля забойства генэрала Касэма Сулеймані выклікала зусім розную рэакцыю Беларусі і Расеі.**

Расея ў амэрыкана-іранскім канфлікце фактычна падтрымлівае Тэгеран. РФ разам з Кітаем заблякавалі заяву Рады Бясьпекі ААН па асуджэньні атакі на амэрыканскую амбасаду ў Іраку, якая адбылася 31 сьнежня. Міністэрства абароны Расеі ўсяляк расхвальвае забітага Касэма Сулеймані, расейскія дзяржаўныя мэдыі асуджаюць ЗША. І гэта зразумела, бо падчас вайны ў Сырыі РФ і Іран былі саюзьнікамі. А ў ЗША Масква бачыць непрымірымага ворага.

Беларусь рэагуе інакш. Беларускія дзяржаўныя мэдыі імкнуцца захоўваць нэўтралітэт у канфлікце Вашынгтону і Ірану. І на гэтым тле выдзяляецца тэлефонная размова міністра замежных справаў Беларусі Ўладзімера Макея зь дзяржаўным сакратаром ЗША Майкам Пампэо 6 студзеня.

З сайту МЗС Беларусі незразумела, хто каму патэлефанаваў. Але сам факт размовы міністра з асобай, адказнай за замежную палітыку ЗША ў момант вострага канфлікту Злучаных Штатаў з Іранам, даволі паказальны. Макей мог бы дзеля раўнавагі патэлефанаваць у Тэгеран. Але не.

Другі момант. Паводле інфармацыі МЗС Беларусі, «зь беларускага боку пацьверджана гатоўнасьць прыняць Дзяржаўнага сакратара ЗША зь візытам у ўзаемапрымальныя даты, адзначана важнасьць адкрытага абмену думкамі па пытаньнях развіцьця двухбаковых адносінаў, сытуацыі ў рэгіёне і сьвеце ў цэлым». То бок, беларускае пасланьне ў Вашынгтон такое: мы вас чакаем.

І самае галоўнае. Падчас тэлефоннай размовы Ўладзімер Макей «выказаў асуджэньне любых дзеяньняў, якія парушаюць прадугледжаныя Венскай канвэнцыяй аб дыпляматычных зносінах прывілеі і імунітэты дыпляматычных прадстаўніцтваў».

Нагадаю, што ракетны удар ЗША, у выніку якога быў забіты Касэм Сулеймані, стаў адказам на атакі на амэрыканскую амбасаду ў Іраку. І Макей, асуджаючы «любыя дзеяньні» супраць «дыпляматычных прадстаўніцтваў», фактычна салідарызуецца з пазыцыяй Вашынгтону. У гэтым кроку выявілася прынцыповае адрозьненьне ад пазыцыі Расеі, якая ў ААН адмовілася асудзіць атаку на амэрыканскую амбасаду ў Іраку.

Цяперашняя пазыцыя афіцыйнага Менску паказвае, як моцна памянялася замежная палітыка Беларусі. У 1990-2000-я гады беларускае кіраўніцтва праводзіла жорсткі антыамэрыканскі курс. Лукашэнка тады бег наперадзе паравоза і ўвесь час асуджаў Расею за ляяльнасьць да Захаду і ЗША.

І наадварот, з Іранам тады сябравалі. Зьявіўся нават нейкі антыамэрыканскі саюз краін-ізгояў: Беларусь, Іран, Вэнэсуэла, Куба і інш. Тады Беларусь нават спрабавала распрацоўваць нафтавыя радовішчы ў Іране, але беспасьпяхова.

Аднак часы мяняюцца. Беларусь выйшла з міжнароднай ізаляцыі, пачаўся працэс нармалізацыі адносін з Захадам. У выпадку чаго, Іран наўрад ці стане абаранцам незалежнасьці Беларусі.

А вось ЗША ўсяляк падкрэсьліваюць падтрымку беларускага сувэрэнітэту. Пра гэта казалі падчас мінулагодніх візытаў у Менск дарадцы прэзыдэнта ЗША па нацыянальнай бясьпецы Джон Болтана і намесьніка дзяржсакратара Дэйвіда Гэйла. Плянаваны візыт Пампэо ў Менску, паводле прэс-рэлізу Дзяржаўнага дэпартамэнту Злучаных Штатаў, меўся «падкрэсьліць прыхільнасьць ЗША да сувэрэннай, незалежнай, стабільнай і квітнеючай Беларусі». Камэнтуючы тэлефонную размову з Макеем, прэсавая сакратарка Дзяржпэпартамэнту ЗША Морган Артагус заявіла: «Дзяржсакратар высока ацаніў падтрымку Беларусі ў асуджэньні нападу на амбасаду ЗША ў Багдадзе. Сакратар Пампэо пацьвердзіў моцную прыхільнасьць ЗША да сувэрэнітэту і тэрытарыяльнай цэласнасьці Беларусі».

Для Беларусі якраз цяпер, падчас вострага крызысу ў адносінах з Расеяй, такая пазыцыя ЗША вельмі важная. У гэтым сэнсе жэст афіцыйнага Менску цалкам лягічны і прагматычны.

**Валер Карбалевіч**
**www.svaboda.org**

**Заснавальнік і рэдактар:** Станкевіч Георгій Мікалаевіч

**Адрас рэдакцыі:** Бешанковіцкі раён, в. Старыя Ранчыцы, e-mail: stan62@list.ru, тэл. 60237, маб. +375292184739
Газета выдаецца з сакавіка 2005г.

**Падпісана да друку 16.01.2020 у 16.30**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на ўласным абсталяванні.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.